# Гаварыць і слухаць

— Не гавары лішняга!

— Не балбачы!

— Супакойся ўжо, гаварун гэткі!

Часта нам з вамі даводзіцца чуць штосьці падобнае ад старэйшых. Часам робіцца крыўдна. Часам мы робім выгляд, што не пачулі, і працягваем гаварыць: каб жа хоць паспець сказаць усё, што хочацца. Зрэдку замаўкаем. На кароткі час. Бо неўзабаве зноў пачнем гаварыць-гаварыць-гаварыць... Нібы баімся, што нехта іншы возьме ды скажа тое важнае за нас.

Але ёсць месца, дзе мы павінны гаварыць як мага менш, бо тут трэба больш слухаць. Гэтае месца — Божая святыня. Не, ад нас не патрабуецца, каб мы тут толькі маўчалі. Але гаварыць тут мы павінны толькі з Ім... З Богам. Гэтая размова называецца малітвай. А ці ўмеем мы маліцца? Паспрабуем паразважаць пра гэта. Ці заўсёды мы гаворым Пану Богу найважнейшае? Ці ўмеем слухаць Яго?

*Пане Езу!*
*Мы хочам быць*
*Тваімі вернымі сябрамі.*
*Гавары нашымі вуснамі,*
*думай нашымі думкамі,*
*дай нам добрую волю*
*і напоўні нашы сэрцы любоўю*
*да Цябе.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



*Малюнак Паліны Шаламенцавай, 14 гадоў.*




Малюнак Ангеліны Сержан, 14 гадоў.

# Што гэта азначае?

На малітве мы паводзім сябе па-рознаму. Часам кленчым са складзенымі на грудзях рукамі. Часам молімся стоячы. На Імшы святар часта кажа: «Молімся», і мы, якія дагэтуль сядзелі, адразу падымаемся. Святар прамаўляе малітву, а мы адказваем: «Амэн», гэта значыць, што мы цалкам згодныя з тым, што прамовіў святар. Калі мы на каленях, то тым самым выказваем Пану Богу сваю пакору, вялікую пашану да Яго, а таксама сваё пакаянне. Калі ж мы трываем на малітве на нагах, то нібы гаворым Яму, што гатовыя ісці за Ім, выконваць Ягоную волю.

На фацімскай ружанцовай малітве ў Шуміліне часта прапануецца маліцца з узнятымі ўгору рукамі. Гэта выраз вялікай просьбы і любові да Маці Божай.

На малітве праслаўлення людзі часта таксама моляцца з узнятымі ўгору рукамі, выказваючы тым самым вялікую любоў да Бога, жаданне ісці за Ім.

Чаму так адбываецца? Бо калі мы звяртаемся да Пана Бога, то моліцца не толькі наш язык, але і душа, і цела. Калі ж такой еднасці няма, то малітва бядней. Гэта нібы сказаць сябру: «Ты мой найлепшы сябар», а самому пры гэтым глядзець кудысьці ўбок, думаць пра кагосьці іншага. Ці адчуе сябар няшчырасць? Вядома. Няхай жа Пан Бог ніколі не бачыць нашай няшчырасці на размове з Ім.

*А. Барткевіч*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (64)/2014 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:*** *а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 2404.
Падпісана да друку 23.06.2014 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.



# *Сябар дзяцей*

Папа Рымскі Францішак часта сустракаецца з дзецьмі. Ён заўсёды благаслаўляе іх, умее радавацца разам з імі.

Але гэтая сустрэча была не надта вясёлая, бо ў часе свайго побыту на Святой Зямлі папа Францішак пажадаў сустрэцца з тымі, каму цяпер найбольш цяжка. У Бэтлеемскім цэнтры «Фенікс» ён сустрэўся з дзецьмі бежанцаў, якія былі вымушаныя пакінуць родныя дамы і ўцякаць ад небяспекі, што пагражала іх жыццю. Некалькі ўдзельнікаў сустрэчы расказалі шаноўнаму госцю пра тое, што ім давялося перажыць. Гэтыя гісторыі вельмі ўзрушылі Папу, і ён потым сказаў:

— Ніколі не дазваляйце, каб мінулае вызначала вашае жыццё. Заўсёды глядзіце наперад... Але ведайце, што насілле не перамагаецца насіллем. Насілле перамагаецца толькі мірам!

Амаль на кожнай сустрэчы з вернікамі папа Францішак заўважае прысутнасць дзяцей і заўсёды па-бацькоўску гатовы прыгарнуць кожнага да сябе. Будзем жа адказваць на ягоную любоў нашымі малітвамі!

*Ойча наш...*
*Вітай, Марыя...*
*Хвала Айцу...*

# УВАГА — КОНКУРС!

Сябры! Як вядома, гэты год у Касцёле абвешчаны Годам малітвы. Мы ведаем, што існуе шмат формаў малітвы, шмат малітоўнікаў, якія дапамагаюць нам у гэтым. Але кожны чалавек можа звяртацца да Пана Бога, да Маці Божай альбо да святых апекуноў таксама і сваімі словамі. Ён можа маліцца за бацькоў, сяброў, знаёмых, за свой горад альбо вёску, за сваю радзіму, а таксама за людзей, якія жывуць у краінах, дзе ён ніколі нават і не бываў.

Паспрабуйце сказаць сваімі словамі Богу пра тое, што для вас вельмі важна. Магчыма, хтосьці вельмі любіць дзякаваць. Калі ласка! Гэта, дарэчы, вельмі важна — навучыцца бачыць тое, што Ён робіць у нашым жыцці. Словам, скажыце Богу сваімі словамі тое, што ляжыць на сэрцы. Напішыце свае малітвы і дашліце нам. А калі хто пажадае выказаць сваю малітву ў малюнку, таксама будзем вельмі рады!

Чакаем вашых лістоў! Чакаем малітваў!

Вынікі конкурсу будуць падведзеныя напрыканцы года. Лепшыя працы будуць адзначаны падарункамі.

Сёння мы змяшчаем першую працу. Яе аўтар — наша чытачка з Полацка **Маргарыта Ясэпкіна**.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



*«У Вячэрніку». Маргарыта Ясэпкіна.*

I
**Не май іншых багоў, апроч Мяне**

II
**Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна**

III
**Памятай дзень святы святкаваць**



# Урокі айца Віталія

Улетку Андрэй нарэшце змог вырвацца з душных класаў школы — бацькі адвезлі яго ў вёску да бабулі. У вёсцы ёсць стары прыгожы касцёл, а ў ім шмат фігураў святых, пра якія Андрэю бабуля некалі распавядала шмат цікавага...

Андрэй пасябраваў са сваім аднагодкам Сяргеем з Мінска. Неяк, вяртаючыся з рэчкі, яны вырашылі пагуляць па вёсцы і неўзабаве дайшлі да касцёла. Андрэй спытаў у сябра:

— А ты ходзіш у касцёл?

— Ну-у-у... мы з мамай неяк былі ў Мінску ў Чырвоным на Пасху, — адказаў Сяргей.

— Пайшлі, я пакажу табе гэты касцёл! — прапанаваў Андрэй. Яму карцела распавесці новаму сябру ўсе гісторыі пра святых, якія ён ведаў ад бабулі.

...Святыня сустрэла хлопчыкаў прыемнай прахалодай. Там панавала ціша, якую нават няёмка было парушаць, і Андрэй, як некалі і ягоная бабуля, пачаў шэптам распавядаць пра святых, чые фігуры стаялі ў галоўным алтары.

— А вось гэта — святы Баніфацый... —паказаў Андрэй на чарговую фігуру.

— Ха-ха! Баніфацый! — гучна засмяяўся раптам Сяргей. — Якое смешнае імя! Хто мог дадумацца даць яму такое імя? Ха-ха-ха! — Сяргееў смех рэхам адбіваўся ад сценаў пустога касцёла.

— Ціха ты!— Андрэй паспрабаваў суцішыць сябра.

— Хто тут у нас так весяліцца? — раптам пачулася з-за спінаў хлопцаў. — Да хлопчыкаў падышоў ксёндз Пётр.

— Ой! Прабачце... ксёндз Пётр, проста... — прамармытаў Андрэй.

— Проста імя смешнае... Ха-ха-ха! — Сяргей нават і цяпер не мог стрымацца ад смеху.

— Імя святога Баніфацыя можа й дзіўнавата гучыць для нашага вуха, — спакойна патлумачыў ксёндз Пётр, — але ж гэта не змяншае яго заслугаў. Ён быў біскупам і мучанікам, а значыць аддаў сваё жыццё за Хрыста і стаў святым, трапіў на неба. І нам трэба не смяяцца, а браць з яго прыклад.

Сябры! У другой запаведзі Пан Бог заклікае нас ставіцца з пашанай не толькі да імя Божага, але таксама да святых і шанаваць святыя месцы і рэчы.

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

IV
**Шануй бацьку свайго і маці сваю**

V
**Не забівай**



## *Чаму гэта так важна — шанаваць Божае імя? І чаму нельга ўжываць яго дарэмна?*

* Таму што гэта — грэх. *Ян Шэвяка, 9 гадоў.*





* Калі мы без пашаны вымаўляем Божае імя, то не слухаемся Пана Бога, а Ён нам наказаў у сваіх запаведзях гэтага не рабіць. *Маша Адамовіч, 9 гадоў.*



* Таму што Пану Богу было б крыўдна, калі б мы не шанавалі Яго імя. *Саша Дзенісёнак, 9 гадоў.*



* Бог стварыў свет і ўсё, што ў ім ёсць. Без Яго мы проста не жылі б. Хіба ж можна не шанаваць і не любіць Яго? *Валера Хмялёў, 9 гадоў.*

* Бог сам святы, і Яго імя таксама святое. А ўсё святое людзі павінны шанаваць і берагаць. *Насця Харушэўская, 9 гадоў.*





* Гэта адна з дзесяці Божых запаведзяў. Той, хто яе парушае, грашыць. Нам трэба заўсёды дзякаваць Богу, бо Ён даў нам жыццё. А дзякаваць, вядома ж, трэба з пашанай. *Павел Марданян, 13 гадоў.*

* Я люблю Пана Бога і хачу, каб Ён гэта ведаў. Я не хачу грашыць. *Вераніка Шакуць, 9 гадоў.*





* Чалавек павінен заўсёды шанаваць Божае імя, асабліва ў малітвах. *Глеб Пальчэх, 11 гадоў.*

*Так лічаць нашы чытачы з Наваполацка і пасёлкаВетрына, што на Полаччыне.*

*Сябры! А што вы думаеце пра наступную, трэцюю запаведзь? Вы таксама можаце даслаць свае адказы і стаць аўтарам гэтай старонкі ў наступным нумары часопіса. Адказы можна высылаць поштай альбо на e-mail: m.rycar@yandex.by Не забудзьце разам даслаць і свой здымак!*

**X**
**Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму**

**IX**
**Не пажадай жонкі бліжняга твайго**

**VIII**
**Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго**

**VI**
**Не чужалож**

**VII**
**Не крадзі**

## Старонка ваўчанятаў



# Лета радасць нясе

Прывітанне, сябры! Сардэчна вітаем вас мы, ваўчаня Спрыт і ваўчаня Адважны!

Вось і настала лета! А для ваўчанятаў гэта значыць, што чарговы скаўцкі год, на жаль, завяршаецца. Але заканчваецца ён вельмі весела. Падчас летніх канікулаў мы выправімся ў летнік. Ён звычайна ў лесе і доўжыцца некалькі дзён. Таму ўсе ваўчаняты змогуць навучыцца жыццю ў лесе і шмат чаму іншаму, тым больш што бацькоў побач не будзе, толькі старэйшыя скаўты.

— Галоўнае, не забывай іх слухацца, Адважны!

— Так-так, Спрыт, канешне. У нашым законе зграі сказана, што ваўчаня павінна слухацца старэйшага воўка.

— Адважны, а зможаш ты знайсці тут два аднолькавыя малюнкі? Сябры, дапамажыце і вы!






— Спрыт, а ведаеш, што мне нагадалі твае малюнкі? Раду на скале. Мы так называем той час, калі Акела — гэта наш старэйшы скаўт — расказвае нам цікавыя і павучальныя гісторыі.





Вось глядзі, у мяне ёсць некалькі фотаздымкаў гэтай падзеі, перажытай барысаўскімі ваўчанятамі.




— Як цікава! Дарэчы, Адважны, паколькі ты паедзеш у летнік, то табе трэба ведаць звяроў, якія жывуць у лесе.

— А я іх і ведаю: мядзведзь, ліса, дзік, вожык, вавёрка, заяц...

— Добра, а ці ведаеш ты, што яны ядуць? Вось табе заданне: прайдзі па сцежках на гэтым малюнку ад звяроў, якіх ты назваў, да іхніх страваў, каб даведацца.

— Прайшоў ужо! Ведаю! Ох, Спрыт, мне здаецца, мінскія ваўчаняты таксама гэта дакладна ведаюць, бо яны нядаўна былі ў заапарку. Глядзі.

— Клас! Малайцы, хлопцы!

Сябры, жадаем вам усім добра правесці лета! А потым напішыце ў рэдакцыю, як вам гэта ўдалося.

*Ваўчаня Спрыт і ваўчаня Адважны*






# Старонка божых каровак

Прывітанне, сябры! Рада зноў вітаць вас на нашай старонцы. Ведаеце, чым мне найбольш падабаецца займацца? Падарожнічаць. Падчас вандроўкі можна не толькі паглядзець новыя прыгожыя мясціны, але і пазнаёміцца з новымі сябрамі — жыхарамі лесу, поля, вольнага паветра.

А вы ведаеце шмат жывёлаў і птушак? Ці звярталі вы ўвагу на тое, якія лясныя жыхары згадваюцца ў Евангеллі?

Прапаную вам разгадаць крыжаванку, якую я падрыхтавала для вас.

Увага: назвы жывёлаў і птушак у крыжаванцы пастаўлены ў назоўным склоне адзіночнага ліку.

## КРЫЖАВАНКА

*«Жывёлы і птушкі ў Евангеллі»*




*Па гарызанталі:*

1. «А гандлярам ________сказаў: Забярыце гэта адсюль! І не рабіце дом Айца Майго домам гандлю“» (Ян 2, 16).
2. «Далёка ж ад іх пасвіўся вялікі статак _____» (Мц 8, 30).
3. «... і хацеў насыціцца тым, што падала са стала багацея. І _____ прыходзілі, і лізалі струпы ягоныя» (Лк 16, 21).



**4.** «Лягчэй _____ прайсці праз ігольнае вушка, чым багатаму ўвайсці ў Валадарства Божае» (Мк 10, 25).
**5.** «І паставіць авечак праваруч, а _____ леваруч» (Мц 25, 33).
**6.** «Але перадусім  ідзіце да загінуўшых ______  з дому Ізраэля» (Мц 10, 6).

*Па вертыкалі:*

**1.** «Вось Я пасылаю вас як авечак паміж ______» (Мц 10, 16).
**2.** « ...Вось Кароль твой ідзе, седзячы на _____» (Ян 12, 15).
**3.** «І сказаў яму Езус: _____ маюць норы ...» (Лк 9, 58).
**4.** «Другі сказаў: я купіў пяць пар _____ і іду выпрабаваць іх» (Лк 14, 19).
**5.** «Таму не бойцеся: вы вартыя больш за мноства ______» (Мц 10, 31).
**6.** «Паглядзіце на _____ : яны не сеюць і не жнуць...» (Лк 12, 24).

Спадзяюся, у вас усё атрымалася і вы зусім не стаміліся, бо я хачу прапанаваць вам  яшчэ адну гульню-галаваломку, якая мае незвычайную назву.

## ТАНГРАМ



Гульня вельмі простая. Квадрат любой велічыні трэба раскрэсліць так, як паказана на малюнку, каб атрымалася пяць трохкутнікаў розных памераў: два вялікіх, два маленькіх і адзін сярэдняга памеру; адзін квадрат, роўны па памерах двум маленькім трохкутнікам; паралелаграм, роўны плошчы квадрата.



По ўзорах трэба скласці абрысы, абавязкова выкарыстоўваючы ўсе часткі набору, шчыльна падганяючы іх адзін да аднаго.

Калі ў вас атрымаецца скласці новыя абрысы, дашліце іх нам. Мы з задавальненнем «паламаем» над імі галаву.



*По гэтым усе пазнаюць,*
*што вы Мае вучні,*
*калі будзеце мець любоў адзін да аднаго.*

Ян 13,35.

Ірына ЖАРНАСЕК

# Букет дзьмухаўцоў



Так яно бывае: з самай раніцы — ужо непрыемнасць. Не паспеў Мацвей як след парадавацца, што за вакном нарэшце новая сонечная субота, а значыць у школу не трэба, як пачуў ад мамы:

— Сынок! Я сёння не змагу наведаць дзядулю Віктара — працоўная субота. Сходзі ты да яго. У краму то можа й не трэба, бо я ўчора хадзіла.

— Дык навошта я там? — з надзеяй, хоць і слабой, прамовіў Мацвей.

— Кнігу пачытай — ён жа сам не бачыць. Альбо проста пагавары. Толькі не спяшайся, пабудзь з ім.

Сюрпрыз! Прычакаў, называецца, суботу! Вось табе і футбол, і кіношка па тэліку, і гульня па камп'ютары! За дзень можна ўсе туркі-баркі аблётаць, як кажа іхні сусед дзядзька Хведар, а скончыцца



ўсё чытаннем кніжкі і нудотнымі размовамі. Мама наведвае гэтага хворага дзядулю, які ім, дарэчы, ніякі зусім і не дзед — проста сваякоў і родных, такіх, што хацелі б яму дапамагаць, ён не мае. А тыя, што ёсць, то лепш бы і не адгукаліся, бо яны альбо адразу п'яныя, альбо прыходзяць выпрошваць у яго на пляшку. Тады ў дзеда звычайна павышаецца ціск — нават «хуткую» некалькі разоў выклікалі.

Па дарозе Мацвей маліўся. Наўрад ці хто паверыў бы, але ён вельмі шчыра маліўся на гэты раз не за тое, каб яго, Мацвея, не выклікалі на матэматыцы альбо каб адмянілі кантрольную па рус.мове. Ён маліўся за чужога чалавека і прасіў для яго здароўя. Бо калі б гэты дзядуля паздаравеў, то не трэба было б і наведваць яго. Але ж гэтая мама!.. Яна заўсёды знойдзе, каго наведваць, каму дапамагаць, каго даглядаць! Ну хоць перапынак нейкі быў бы! І Мацвей зноў шаптаў: «Вітай, Марыя, поўная ласкі...» — таямніцу Ружанца, як вядома, можна маліцца і на пальцах.

Калі адкрываў замок у дзвярах, зразумеў: цуду не адбылося — з пакоя пачуўся дзядулеў голас: «Таццянка, золатка, ты?». Таццянка — гэта Мацвеева мама.

— Не, я не Таццянка, — паныла адказаў Мацвей.

Ён так-сяк дапамог дзядулю адзецца — абодва пры гэтым добра ўпрэлі, бо самае складанае, аказваецца, усоўваць

рукі ў рукавы кашулі.

Ну і што цяпер, загадае чытаць кніжку? Напэўна ж, пра партызанаў...

— А ты не дапаможаш мне пералезці з ложка на крэсла? — запытаў дзядуля.

Гэтая аперацыя была не менш складаная і заняла яна... О ліха, усяго 10 хвілінаў?

— Падкаці ты мяне, дзетка, да вакна.

Ну і навошта? Ён жа ўсё адно нічога не бачыць... А як гэта, калі чалавек зусім-зусім нічога не бачыць? Мацвей заплюшчыў вочы, заціснуў іх —цемра. І так увесь час? З ранку да вечара?

— Можа Вам, дзядуля, кнігу пачытаць? — запытаў і сам на сябе раззлаваўся: калі не просяць, то чаго напрошвацца самому?

— Кнігу? — перапытаў хворы. — Не ўжо, як прыехаў да вакна, то... проста падыхаю тут...

— І нічога не трэба?

— Не, дзетка. Ты, напэўна, хочаш бегчы... гуляць...

— Ды не, — зманіў чамусьці Мацвей і зноў раззлаваўся на сябе, а праз момант зманіў яшчэ, — не хачу я гуляць.

Зрабілася ціха. Дзядуля маўчаў, павярнуўшы галаву да вакна, — дыхаў паветрам, што плыло ў пакой з форткі. Часам парыў ветру закідваў яго, нібы прыгаршчамі, і тады дзядуля ўсміхаўся ад гэтых лёгкіх дотыкаў.

— Добра... Ах, як добра... — ціха прашаптаў ён. — Ну, бяжы, хлопча... Ты ўжо зрабіў так шмат для мяне!

— Я? Ды я ж нічога такога...

— Ого, як шмат!

— І зусім не трэба чытаць? Ні кнігі, ні газеты?

— Іншым разам, хлопча. Скажы толькі мне, а якія кветкі цяпер цвітуць? Я разумею — вясна на двары, але якія кветкі ты бачыш цяпер?

Мацвей зірнуў у вакно і зморшчыўся:

— Нічога асаблівага — увесь двор жоўты ад дзьмухаўцоў.



— Дзьмухаўцы зацвілі! — Раптоўна памаладзелым голасам узрадавана ўсклікнуў дзядуля. — Я так і думаў! Сёння ўранні так і думаў: напэўна, ужо закрасавалі дзьмухаўцы і двор ззяе імі! Я, ведаеш, калі быў гэткі, як ты, збіраў іх і прыносіў сваёй бабулі. Яна вельмі іх любіла. Казала: «Вось і сонейка веснавое да мяне ў хатку прыйшло!». А потым тыя дзьмухаўцы рабіліся белыя, амаль празрыстыя, з мноствам парасонікаў, і бабуля прасіла асцярожненька паставіць букет на шафу, каб кветкі ніхто не здзьмухнуў. Яны так потым і стаялі там — усю вясну, лета і зіму... Да новых дзьмухаўцоў!

— Я магу таксама прынесці такі букет, — сказаў Мацвей.

Дзядуля засмяяўся:

— А ну цябе! Ці я жанчына, каб мне кветкі дарыць? Хай сабе там квітнеюць! А мне добра проста ведаць, што яны ёсць.

На гэты раз стары і Мацвей чамусьці засмяяліся разам. Потым Мацвей смажыў яечню і яны ўдваіх елі яе. Потым пілі гарбату і стары расказваў, як ён, калі служыў у войску, пабіўся з сябрамі на заклад і выпіў цэлых дзесяць кубкаў гарбаты запар! Потым...

Адвячоркам прыйшла мама і Мацвей разам з ёю пайшоў дахаты. Засынаючы таго вечара, хлопчык вырашыў, што ўсё ж назбірае заўтра букет дзьмухаўцоў і занясе яго дзядулю. А яшчэ ён абавязкова пачытае яму кнігу, бо дзядуля вельмі любіў калісьці чытаць.



*Мастак Вольга Чарняўская.*

*Незвычайнае ў звычайным*

# Куды знікае вясёлка?



**1.** Падрыхтуй: кардон, нажніцы, цыркуль, фарбы, добра завостраны аловак.



**2.** З дапамогаю цыркуля начарці на кардоне круг. Падзялі яго на сем частак.



**3.** Размалюй часткі круга як вясёлку: у чырвоны, аранжавы, жоўты, зялёны, блакітны, сіні і фіялетавы колеры.



**4.** Выраж круг.



**5.** Зрабі малую дзірачку ў цэнтры круга і ўстаў у яе аловак, каб ён шчыльна трымаўся ў крузе.



**6.** Цяпер круці свой сяміколерны круг і... убачыш, што атрымліваецца!

## ЧАМУ?




Сонечнае святло складаецца з сямі розных колераў, тых самых, якія складаюць вясёлку і знікаюць, калі наш вясёлкавы круг хутка круціцца. Вясёлка расшчапляе белае святло на сем частак, а ты зноў злучыў гэтыя колеры ў адзін — белы! Можаш яшчэ паспрабаваць памаляваць гэткі ж круг, напрыклад, у тры колеры (блакітны, чырвоны, зялёны). Што атрымалася ў выніку?

# Два вяслы




*Малюнак Аляксандры Хамяковай, 14 гадоў.*

Жыў-быў адзін рыбак. Іншыя рыбакі яму зайздросцілі, бо ён заўсёды вяртаўся дахаты з багатым уловам. Пра яго нават чутка пайшла, што ён мае чароўныя вёслы, якія яму дапамагаюць. Адзін хлапец пачаў дапытвацца ў яго і папрасіў:

— Дай мне зірнуць на твае вёслы. Яны ў цябе нейкія асаблівыя, бо і вяслуеш ты нібыта не надта моцна, а лодка так хутка рухаецца!

Рыбак выняў вёслы з вады. Нічога асаблівага: вёслы як вёслы, толькі на адным напісана «маліся», а на другім — «працуй».

— Навошта ты гэта напісаў? — запытаў хлопец.

— Для таго, каб мае малітва і праца заўсёды ішлі поруч, — адказаў рыбак. — Толькі тады будзе поспех.

Ён выцягнуў вясло з надпісам «маліся», паклаў яго ў лодку і стаў веславаць адным вяслом. Лодка пачала кружляць на месцы.

— Вось бачыш, — засмяяўся рыбак, — якая праца без малітвы!

— І наадварот, — згадзіўся нарэшце хлапец. — Калі будзеш толькі ў Бога прасіць, а сам не пажадаеш старацца, нічога добрага таксама не выйдзе.

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...». — Масква: «Трыяда», 2012.*



# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Эўхарыстычная літургія*

**Няхай кожны дае,**
**як вырашыць у сэрцы сваім,**
**а не са шкадаваннем ці з прымусу,**
**бо радаснага даўцу любіць Бог.**
2 Кар 9,7

Падчас св. Імшы святар падрыхтоўвае на алтары важныя для хрысціянаў дары — хлеб і віно, якія моцаю Святога Духа пераменяюцца ў Цела і Кроў Хрыста.



У гэты час міністрант збірае нашы дары — ахвяраванні. Гэткім чынам мы таксама ўдзельнічаем у ахвяры разам з Хрыстом.

Давайце ж памятаць, што кожная наша добрая справа таксама з'яўляецца дарам Богу.





Потым святар кажа: «Маліцеся, браты і сёстры, каб маю і вашу ахвяру прыняў Бог, Айцец усемагутны».

Мы адказваем: «Няхай Пан Бог прыме ахвяру з рук тваіх на праслаўленне і хвалу імя свайго, а таксама на карысць нам і ўсяму Касцёлу святому».





# ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Сябры! Бог наказаў нам у другой запаведзі шанаваць Яго імя. Як мы разумеем гэта?

• ***Якому праpоку Бог упершыню адкрыў сваё імя?***

а) Яну

б) Іллю

в) Майсею

г) Даніілу

• ***Хто сказаў Найсвяцейшай Панне Марыі назваць Сына Езусам Хрыстом?***

а) Юзаф

б) Арханёл Габрыэль

в) Яе мама з татам

• ***Знайдзі ў Кнізе Зыходу*** (раздз. 20) ***другую запаведзь. Выпішы яе для сябе і запамятай.***

• ***У якой малітве мы штодня ўшаноўваем Божае імя?***

• ***Успомні некалькі радкоў з песні, дзе гаворыцца пра імя Божае.***

• ***Што азначае імя Езус? (Мц 1,21)***

• ***У якой малітве вернікі шмат разоў ушаноўваюць імя Езуса?***

## Смяшынкі-Вясёлінкі



**Зайцава гарбата**

Зайчык замовіў у кавярні піражнае і гарбату. Калі яму падалі заказ, ён на хвіліну выйшаў памыць лапкі. Калі ж вярнуўся, на століку стаяла гарбата, а на талерцы засталіся толькі крышынкі.

– Хто з'еў маё піражнае? – закрычаў штомоцы зайчык.

Ад суседняга стала падняўся мядзведзь.

– Я з'еў, і што?

– А чаму гарбату не выпіў? – ціхенька запытаў зайчык.



Адказы на **«Загадкі з Евангелля», змешчаныя ў № 1 за 2014 г.**

Майсею; на гары Сінай; у полымі агню і грымотаў; Дэкалогам; здрадзіў Богу; усіх дзесяці запаведзяў.

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: **Аляксей Томкавіч** і **Яна Сянько** з Вілейкі, **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка. Жадаем усім поспехаў у адгадванні нашых загадак!

# Пяцідзясятніца

**(*Паводле Дзеяў Апосталаў*)**

У дзень Пяцідзясятніцы вучні сабраліся ўсе разам. Раптам яны пачулі шум, быццам узняўся вецер, і адразу пасля гэтага яны ўбачылі, як вогненныя языкі ляглі на галаву кожнага з іх. І яны напоўніліся Духам Святым.

У Дзеях Апосталаў знаходзіцца гэты ўрывак, які вы бачыце на скрутку. Але пры яго перапісванні згубіліся 7 словаў. Вы знойдзеце іх у рамцы. Пастаўце іх на правільнае месца ў скрутку і прачытайце ўрывак.

Сказаў ім Пётр: «........., і няхай кожны з вас ......... ў імя Езуса Хрыста дзеля ......... грахоў вашых, і атрымаеце ... Духа Святога. Бо вам належыць ........ і ...... вашым, і ўсім тым, хто далёка, каго толькі ....... Пан Бог наш» (Дз 2,38–39).

**ДАР,**
**ДЗЕЦЯМ,**
**АХРЫСЦІЦЦА,**
**АБЯЦАННЕ,**
**ПАКАЙЦЕСЯ,**
**ПАКЛІЧА,**
**АДПУШЧЭННЯ.**



# Прыгоды ксяндза Лявона

## Разам з карасямі

Даўно ўжо ксёндз Лявон не быў такі злосны. Ажно прыгадаць цяжка, калі ён так злаваўся, як цяпер. А здарылася вось што.

Папрасілі яго пасвянціць лецішча аднаго гараджаніна, які збудаваў сабе дом у вёсцы Загацце. Вялізную такую граміну зладзіў, на тры паверхі. Дык і паехаў ксёндз Лявон – пахадзіў па тым доме разам з гаспадаром, паслухаў ягоны аповед пра тое, як цяжка яму далося будаўніцтва. Паспачуваў бедалагу ды й пасвянціў – хай сабе стаіць доўга ды служыць гаспадарам. Ну калі яна ім такая патрэбная, то хай сабе...

На развітанне, калі ксёндз Лявон ужо заводзіў машыну, гаспадар падбег да яе, адчыніў заднія дзверцы ды паклаў нейкі клунак на сядзенне:

– Во трохі рыбкі злавіў учора ў тутэйшым возеры, дык і ксяндза пачастую...

Падзякаваў ды й паехаў сабе дахаты. А дома адкрыў тую торбу з рыбай і знямеў: разам з некалькімі карасямі ў ёй ляжалі... дзве пляшкі гарэлкі! Ксёндз Лявон нават у хату не зайшоў – зноўку сеў у машыну ды націснуў на газ!.. Не ехаў, а можна сказаць ляцеў зноў у Загацце!

Толькі прыпыніў машыну, а тут і сам гаспадар пры дарозе з рабочымі: працы ў іх яшчэ шмат – агароджу майстраваць задумалі.

– Забыўся штосьці ў нас ксёндз? – падышоў гаспадар бліжэй да яго.

– Гэта вы забыліся гарэлку ў торбе! – абурыўся ксёндз Лявон у адказ. – Забірайце разам з карасямі!

* * *

– І навошта ксёндз разам з гарэлкай аддаў таксама карасёў? – бедавала потым яго суседка, цётка Альжбета. – Я ж бы пасмажыла ойчаньку, павячэраў бы смачна...

– Сам з сябе дзіўлюся! – памякчэўшы, чухаў патыліцу ксёндз Лявон. – Настолькі быў злосны, што й на карасёў не пакваліўся, хоць і вельмі люблю рыбу.

Цётка Альжбета махнула рукой:

– Ай, не шкадуй! Скажу ўнукам – наловяць яны рыбкі ксяндзу нашаму дарагому ды непітушчаму!

Прыгоду запісала І. Ж.



*Малюнак Ангеліны Пархімовіч, 14 гадоў.*

# Галерэйка

*У гэтай "Галерэйцы" мы прадстаўляем творы ўдзельнікаў мастацкага гуртка Дзіцячага асветніцкага цэнтра "Дарсай". Так яны адлюстравалі вобраз Маці Божай.*



*Улад Путырскі, 13 гадоў.*



*Даша Сіняўская, 11 гадоў.*



*Паліна Гулякевіч, 10 гадоў.*



*Марта Краўчанка, 8 гадоў.*



*Маша Крывашэй, 7 гадоў.*



*Яўген Крывашэй, 12 гадоў.*



*Крыстына Барабіна, 11 гадоў.*



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).

*Малюнак Вольгі Важнік, 14 гадоў.*